Opłata pocztowa opłacona ryczałtem

Цана асобнага нумару 15 гр.

# РОДНЫ КРАЙ

Орган Т-ва Беларускае Асьветы — выходзіць 4 разы ў месяц.

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Езуіцкая вул. 6, кв. 4. | Прыймо інтэрэсантаў: у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 9—12 г. у Рэдакцыі „ ад 17—19 г. | Цана падпіскі з дастаўкай поштай: | За год 5 зл. 50 гр.; за паўгоду—3 зл. за 3 месяцы — 1 зл. 60 гр.; за 1 месяц — 60 грош. |
|---|---|---|---|

№ 20 (45) Вільня, 17-га верасьня 1934 г. Год 2-гі.

## Камуністычная аблуда.

Нядаўна ў Менску скончыліся васеньнія манэўры чырвонай арміі на Савецкай Беларусі, якія былі праведзены ў прысутнасьці камісара Варошылова.

Пры гэтай нагодзе так званы „беларускі прэм'ер" Галадзед прыракаў „яго превосходительству" маскоўскаму камісару Варошылову, што „Савецкая Беларусь, паложаная на пагранічу капіталістычнага сьвету, змушана будзе паявлічыць і ўзмацаваць сваю баявую гатоўнасьць".

Паўстае пытаньне для каго й нашто савецкая прэса падае такія аблудныя весткі? Хіба-ж толькі на тое, каб „прэм." Галадзеду выслужыцца перад сваім начальствам, бо-ж для ўсіх ясна, што **камуністы** ідэолёгічна збанкрутавалі канчальна і беспаваротна. Засталася толькі „сацыял.стычная" лупіна, ды камуністычная чрэзвычайка, якую перамалёўваюць на ўсе лады, нутро-ж само ўсіх бяз вынятку паноў камісараў, пачынаючы ад Сталіна й канчаючы нат' на пастуху Галадзеду напоўнілася па берагі **тым самым капіталізмам, супроць каторага** так часта гэтыя панкі выступаюць.

А чаму-ж гэта паны ідэйныя камуністы так нагвалт патварылі саюзы з ненавіснымі капіталістычнымі дзяржавамі, як Польшча, Францыя, Румынія, Амэрыка і г. д. Хіба-ж гэта ўсё не ўзмацоўвае камуністычнай ідэі, а наадварот служыць абсолютным запярэчаньнем ўсяму таму, што Савецкія паны камісары прапаведвалі яшчэ так нядаўна.

Адначасна з аблуднай заявай, „тав." Галадзеда, Цэнтральны Савецкі Урад на чале з Літвінавым робіць найэнэргічнейшыя захады, каб засесьці за стол Лігі Народаў (яшчэ нядаўна называнай імі ліхам народаў) побач з прадстаўнікамі найвялікшых буржуазна-капіталістычных дзяржаваў.

На розных партыйных канфэрэнцыях і пленумах дурманяць голавы сваіх наіўных таварышоў-работнікаў, заклікаючы іх да надмернае працы на розныя пяцілеткі, ды бязьлітаснай барацьбы з рознымі опортунізмамі ды, так званымі, „нацдэмамі", а ў той-жа час цалуюцца пад звон поўных бакалаў з шампанскім вінам з сваімі капіталістычнымі колегамі. Аблуда, аблуда й аблуда!

І дарма паны савецкія камісары сіляцца даказаць неабходнасьць такое двулічнае палітыкі, бо-ж сяляне ўжо даўно, а работнікі ў апошні час пераканал ся, што ідэямі кормяць толькі працоўныя масы, самі-ж узурпатары народнае ўлады аджыўляюцца больш канкрэтнымі й смачнымі рэчамі. Зразумелі гэта ўжо працоўныя масы ўсяго Савецкага Саюзу. і гэта вось якраз і занепакоіла паноў камісараў.

Дарма пан Галадзед сіліцца замаскаваць сапраўдную патрэбу ўзмацаваньня баявой гатоўнасьці чырвонае арміі.— Яна патрэбна Сталінам і Варошыловым не дзеля абароны Савецкага Саюзу ад суседніх капіталістычных дзяржаваў, а патрэбна якраз кучцы чырвоных дэспатаў супроць працоўных масаў сялян і работнікаў, сярод якіх што раз мацней раздаецца голас абурэньня й пратэсту.

Час аднак ідзе хоць паволі, але бязупынна й стала наперад. Хваля народнага гневу расьце й падымаецца. Наступіць час, калі яна сатрэ з аблічча зямлі сучасных узурпатараў так, як колісь сьцерла Раманавых.

*Эра.*

## Будзем прыгатаванымі.

(Пачатак гл. „Родн. Кр." № 19).

Зразумела, Польшча ўжо сяньня павінна гатавацца да прыняцьця прынцыпу „роўны з роўным". Аднак асабліва добра прыгатаванымі да гэтага мусім быць мы, беларусы, бо ў той час, як для Польшчы прыняцьце ўспомненага прынцыпу будзе толькі частковай рэформай яе замежнае і ўнутраное палітыкі, для нас гэта будзе ня толькі пачаткам новае эпохі, але і цяжкім гістарычным эгзамінам духовае, культурнае, эканамічнае і палітычнае прыгатаванасьці--эгзамінам жыцьцяздольнасьці наагул. Здаць такі эгзамін зможам толькі тады, калі будзем мець належна прыгатаваныя кадры фахоўцаў у кожнай галіне ўнутранага і замежнага жыцьця дзяржавы, калі народныя гушчы будуць ня толькі ў цесным кантакце з інтэлігенцыяй, але будуць самаздысцыплінаваны, будуць дасканальна разумець патрэбу самастойнае самаарганізацыі, захопяцца ёю, як пуцяводнай ідэяй. У нас усяго гэтага сяньня яшчэ *няма*, бо мы і дасяньня ня маем сваёй культурнай і эканамічнай самастойнасьці, як ня маем патрэбных кадраў людзей, якія патрапілі-б утрымаць у сваіх руках усебаковыя праявы самастойна-дзяржаўнага жыцьця. Да гэтага яшчэ патрэбны кантакт беларускае інтэлігенцыі з народнымі масамі. Але, дзякуючы адсутнасьці пазытыўнае працы, у масах вытвараецца анархізацыя паглядаў, ідэйна іх не пацягае ані камунізм, ані эсэраўшчына, ані нацыянал-сацыялізм, ані тым менш хадэцыя ці што іншае. Калі прыгледзімся да прыгатаваўчае працы, да самастойнага жыцьця іншых народаў, то заўважым, што польскі народ перад здабыцьцём сваёй сяньняшняй палітычнай незалежнасьці з вялікім захапленьнем, пад скрыгаты мураў'ёўскіх шыбяніцаў ды посьвісты казацкіх нагаек, пераможна здабываў сваю незалежнасьць культурную і эканамічную. „Praca od podstaw!" — вось той кліч дня, які быў гаслам тады ня толькі польскае інтэлігенцыі, але і ўсяго народу. Тагачасная польская літэратура гэта папросту пляновая прапаганда позытывізму. Нешта зусім падобнае бачым у гісторыі латышоў, ліцьвіноў, чэхаў і інш. народаў, а ў сучасны мамэнт — украінцаў.

Шмат перашкодаў напатыкалі пералічаныя народы, аднак кожны з іх няўхільна здабывае трывалыя падставы сваёй самастойнасьці і гэта толькі шляхам позытыўнае творчасьці. Мусім, нарэшце, і мы, беларусы, узыйсьці на гэты шлях працы, раз назаўсёды адкінуць бязьдзейныя выкрыкі ды енкі. Мусім нарэшце добра ўсьведаміць сабе, што нашая „роўнасьць між роўных" будзе фактам дакананым толькі тады, калі мы выкажам належную духовую і матэрыяльную прыгатаванасьць, калі навернем вёску з анархіі на шлях творчай працы, калі гэная вёска кожным сваім нэрвам будзе чуць, што яна беларуская. Усё-ж гэта можна здабываць, нават і сяньня, адно толькі працай плянова-паступовай. Народная маса ў прынцыпе вельмі консэрватыўная, але можна яе часам скрануць і на барацьбу аружную, калі-ж аднак, ня могучы гэтага зрабіць, яе толькі падбухторываць рознымі поклічамі опозыцыі ці рэвалюцыі, то народная маса дэмаралізуецца, ня прыносячы ніякіх карысьцяў нават і для самых сяйбітаў гэтых покліч аў. Гэта яшчэ раз нам паказвае, што адказнасьць за нашую непрыгатаванасьць спадае не на Астроўскіх, якіх высьвіствуюць розныя *бязідэйныя* палітычныя таргашы, але на тых грабароў беларускай справы, якія сяньня найшляхотнейшыя позытыўна-творчыя высілкі Астроўскіх абкідаюць балотам, ідучы на спатканьне ворагам фактычнага ўзросту беларускіх сілаў. Словам, калі хочам мець „роўнасьць між роўных", мусім ца гэтага дзейна і грунтоўна гатавацца, а гэта зрабіць можна толькі шляхам наступовага здабываньня позытыўных вартасьцяў. І гэнае здабываньне ня будзе здрадаю інтэрэсаў беларускага народу.

Будзем прыгатаванымі. *Эс.*

## Сьв. пам. Д-р. М. Ільяшэвіч,

вучыцель Віл. Белар. Дзяржаўнай Гімназіі і Праваслаўнай Духоўнай Сэмінарыі памёр у начы з 2 на 3 верасьня. Сьв. пам. М. Ільяшэвіч радзіўся ў 1903 годзе ў м. Пружане. Ад 1904 году бацькі яго пераехалі ў Вільню, дзе й правёў ён свае дзіцячыя гады. Вучыўся ў Вільні ў Духоўным Вучылішчы да 1915 г. Падчас нямецкай акупацыі сьв. пам. М. Ільяшэвіч разам з бацькамі пераехаў у Расею. Бацька працаваў у Маскве, а рэшта сям'і жыла ў м. Скапіне, Разанскай губ. Часы рэволюцыі і бежанства надарвалі здароў'е сьв. пам. М. І., які быў змушаны маладым хлопцам памагаць сям'і, працуючы ў розных лясных складах, на станцыі і т. д. У 1919 г. сям'я Ільляшэвічаў вярнулася на бацькаўшчыну й сьв. пам. М. І., разам з сястрой і братам, паступіў у Віл. Бел. Гімназію. Захапіўшыся адраджэнскім рухам, аб якім раней амаль нічога ня ведаў (бацька перад вайной купляў часам „Нашу Ніву"), сьв. пам. М. І. зрабіўся адразу запаленым энтузыястам беларускага адраджэньня. У Гімназіі ўжо ён, разам з сваімі таварышамі, працаваў у вучнёўскім гуртку, у часопісі „Маладое Жыцьцё" (якую ён пасьля сам вёў), у тэатры і т. д. У 1923 г. выехаў у Прагу (Чэхаславаччына), дзе здабыў тытул доктара філёзофіі У 1929 г. вярнуўся на бацькаўшчыну й тут пачаў працаваць на культурнай і грамадзкай ніве.

Слабое здароў'е, надарванае цяжкімі варункамі жыцьця ў Расеі і ў Празе на эміграцыі, усьцяж пагоршывалася. Ня гледзячы на гэта, сьв. пам. М. І. да апошняе амаль хвіліны, не пакладаючы рук, рабіў усё, што мог, для беларускай справы. Вядомы сьветлай памяці нябожчык і як аўтар некалькіх кніжак, як „Belorus a Belorusove", „Кароткі Нарыс псыхолёгіі" (для школаў) і інш.

Вырасла новая магіла. Перадчасна згінуў яшчэ адзін змагар і працаўнік. Хай зерняты яго працы ўзрастуць на беларускай ніве новымі расткамі, а яму хай будзе лёгкай родная зямелька.

Вечная памяць!

## Выступленьне мін. Бэка ў Жэнэве.

У прошлым нумары нашае газэты мы пісалі ўжо аб польскай прапазыцыі ў справе нацыянальных меншасьцяў, пастаўленую на парадак дня верасьнёвай сэсіі пленуму Лігі Народаў. Як лёгка было наперад згадаць, польская прапазыцыя на сэсіі Лігі Народаў не атрымала большасьці галасоў. У сувязі з гэтым польскі мін. Бэк заявіў, што Польшча змушана адмовіцца ад выконваньня падпісаных ёю міжнародных трактатаў аб абароне нацыянальных меншасьцяў, бо інакш зьяўляецца яна агранічанай у сваё суверэннасьці.

Заява польскага міністра замежных спраў нарабіла шмат гуку ў эўрапейскай прэсе. Францыя і Англія ўважаюць, што ніводная

дзяржава ня можа аднастаронна адмовіцца ад выконваньня тых забавязаньняў, якія ўзяла на сябе, падпісваючы Вэрсальскі трактат.

Пэрыжская газэта «Эвр» піша, што выступленьне мін. Бэка ёсьць бунтам Польшчы проці Лігі Народаў, якой павінна быць удзячна за сваё існаваньне.

У кругах Лігі Народаў на шаг Польшчы заглядаюцца вельмі паважна. Падкрэсьліваецца тое, што падпісаньне дагавору аб абароне меншасьцяў было прадпасылкай устанаўленьня незалежнасьці Польшчы. Таму пазыцыя мін. Бэка можа прывесьці да адыходу Польшчы ад Лігі Народаў, бо Польшча зламала першы пункт уставу Лігі.

У выніку гэтых падзеяў у Вільні, 16 г. м. на пляцу Лукішскім адбылася вялікая маніфэстацыя. Была яна доказам салідарнасьці віленскага грамадзянства з выступленьнем мін. Бэка ў Жэнэне. Да сабраных прамаўляў сэнатар Абрамовіч. Гаварыў ён аб гісторыі міжнароднай абароны меншасьцяў і падкрэсьліў, што ў практыцы гэта абарона давала толькі магчымасьць паасобным адзінкам народных меншасьцяў рабіць усялякія надужыцьці і была полем, на якім некаторыя дзяржавы праводзілі свае палітычныя комбінацыі. Па сутнасьці-ж адмова Польскага Ураду падпарадкавацца так званаму трактату аб народных меншасьцях *абсолютна ні ўчым дасюляшніх правоў нацыянальных меншасьцяў у Польшчы не нарушае*. Сэнатар Абрамовіч закончыў сваю прамову адчытаньнем адпаведнае рэзалюцыі, якая была прынята сабранымі.

# Адзін з расаднікаў ізноў магчымае сусьветнае вайны.

Адным, з расаднікаў вайны з найбольш дасьпелымі яе мікробамі,—гэта новая „імпэрыя“ на Далёкім Усходзе, якая завецца Манджу-Ді-Го, або скарочанна—Манджуго. Магутная астраўная азіяцкая імпэрыя — Японія рапуча стаўляе свае ногі на мацярык, утварае дзяржаву Манджу-Ді-Го з старое Манджурыі і адабранае ў Кітаю правінцыі Джэголь, фактычна ліквідуе ўсякае права СССР на Усходня Кітайскую чыгунку, збудованую калісь царскімі ўрадамі былое Расеі.

А Савецкі Саюз, заняты сваімі вялікімі ўнутранымі клопатамі, няўдачамі свае асаблівае палітычнае сыстэмы, падлабуньваецца да ўсіх магутных і меншых дзяржаваў сьвету, удачна дабіваецца іхнага прызнаньня, навязвае ня толькі звычайныя дыплёматычныя зносіны, але маніцца папасьць нават і ў Лігу Нацыяў, каб магчы мірна ўжывацца на нашай грэшнай плянэце побач з тымі, каго гэтак нядаўна яшчэ Камінтэрн прызываў у сваёй агітацыі ня іначай, як „акуламі сусьветнага імпэрыялізму“. Перад японскаю агрэсыўнасьцю на сваіх крайніх усходніх рубяжох Савецкі Саюз моцна пасуе: на арышты савецкіх вўраднікаў Усходня-Кітайскае чыгункі рэагуе ўсяго толькі нотамі пратэсту ды павялічэньнем Далёка-Усходняе арміі Блюхера, якая даведзена, паводле газэтных вестак, да паўтара мільёна чалавек, ня лічачы цэлае грамады рознае тэхнічнае зброі.

Як відаць, дык у адкрытую вайну з Японіяй Саветы згуляць не адважваюцца, добра разумеючы, што яна ня можа быць лёкальным конфліктам, а адразу выкліча сабою новы сусьветны пажар, ня той, які бальшавікі гэтак любяць, — „пажар рэвалюцыі“, а звычайны „пажар вайны“, у выпадку якога лёгка можа прыйсьці і сам канец усяму бальшавіцкаму ладу. Самая страшная зброя бальшавікоў—іхная прапаганда соцыяльнай рэвалюцыі неяк перастала дзейнічаць на „старую Эўропу“, наадварот, замест сусьветнае рэвалюцыі, паводле маскоўскага рэцэпту, эўропейскі сьвет перайшоў да сусьветнае, можна сказаць, рэакцыі паводле рэцэпту італьянскага дыктатара Муссоліні. Адсюль і гэткі мірны настрой маскоўскага ўраду Сталіна ды іншых псэўдонімаў. Яны, маўляў, ня хочуць вайны, яны гатовы прадаць Усходня-Кітайскую чыгунку Японіі або Манджу-Го, але ім не даюць за гэту чыгунку гэтулькі, як яны просяць.

Дый нічога не дадуць, бо на якое ліха Японія або апекаваная ёю Манджу-Го будзе купляць тое, што ўжо фактычна знаходзіцца ўва ўласных руках? Больш таго, японскія ўлады пастанавілі прагнаць усіх савецкіх грамадзян з Манджу-Го, павыкідаўшы іх у СССР. На савецкія ноты гэткаю пастановаю японцы толькі і адказваюць, а савецкі дыплёмат на Далёкім Усходзе заяўляе на гэта, што прыдзецца мусі яшчэ павялічыць армію Блюхера.

Адным словам, далёка-ўсходні расаднік новае вайны аж надта ўжо награмадзіў пораху. І калі порах гэты ня ўзрываецца, дык толькі таму, што і Японія і Саветы яшчэ ня выварылі ўсіх шансаў вайны ў дыплёматычных кухнях сьвету: ня маюць яшчэ пэўнасьці, хто, у выпадку барацьбы, акажацца іх саюзьнікам, а хто ворагам.

Бо Паўночна - Амэрыканскія Злучаныя Штаты, боручыся за сваю перавагу на Ціхім акіяне, гатовы памагчы кожнаму ў барацьбе з Японіяй, а Францыя з Італіяй зацікаўлена ў зьмене сучаснага палажэньня на Далёкім Усходзе на карысьць СССР. Парыж і Рым пільна сачаць за павялічваньнем японскіх уплываў на азіяцкім мацярыку. Францыя асабліва зацікаўлена ў тым, каб Кітай яшчэ доўгі час быў тым, чым ёсьць цяпер, каб крый Божа не адбылося японска-кітайскае паразуменьне, у рэзультаце якога Кітай бязумоўна трапіць у падпарадкаваньне Японіі, як у палітычным, так і ў фінансавым і вайсковым сэнсе.

Крэмль дрыжыць ад аднэй магчымасьці вайны з Японіяй, якая ў 1905 годзе патрапіла нанясьці цэлы рад вялікіх паражэньняў расейска-царскім збройным сілам, як на моры, так і ў тэй самай Манджурыі. Японія не рашаецца на адкрытую вайну, а проста наступае па ўсей лініі сваіх інтарэсаў у Манджурыі. Спыніць гэты наступ Саветы ня маюць адвагі, маючы ўнутры „ўнутранага ворага“ ў постаці вялізарнае масы даведзенага да апошняе галіты свайго ўласнага спролетарызованага насяленьня. Ідэя вайны сярод народаў СССР за нейкую там чыгунку на далёкім—Далёкім Усходзе наўрад ці можа быць болей популярнаю, як калісь ідэя вайны за концэсіі царскіх саноўнікаў на манджурскай рацэ Ялу. А на бацыльлі бальшавізму японскі дзяржаўны організм аказваецца вельмі адпорным: гэта ня тыя наіўныя беларускія мужычкі з Заходняй Беларусі, якіх лёгка ўдавалася бальшавіцкім агентам разагітоўваць у кірунку „сусьветнай рэвалюцыі“... на карысьць Масквы.

*Чытач.*

# Людзі ня згінуць...

Распачынаецца ужо ў найблізэйшым часе 1934-35 акадэміцкі год. Да муроў Віленскага Унівэрсытэту скіруе свой крок не адзін беларус — матурыст і вернецца не адзін студэнт, каб прадоўжыць здабываньне веды на розных факультэтах.

Павялічаныя аплаты за навуку і выняткова цяжкі эканамічны стан беларускае вёскі, з якой пераважна, паходзіць студэнт-беларус, ствараюць страшэнна дрэнныя, а часам проста немагчымыя варункі для працы маладога беларускага пакаленьня над здабыцьцём вышэйшай асьветы.

І дзеля гэтага над з'арганізаваньнем помачы для беларускага студэнцтва кожны сьведамы грамадзянін — беларус павінен паважна задумацца.

Само сабой разумеецца, што кожны пачын ў гэтым кірунку павінен мець характар з'арганізаванае акцыі, ў меру магчымасьці, усяго грамадзянства. Але ў нашых варунках чагосьці падобнага трудна спадзявацца.

Беларуская хадэцыя і „іже“ з імі да скоордынаваньня помачы ніколі не дапусьцяць. Гэта не ляжыць ў іх інтарэсах.

Ужыўшыся ў нэгацыю, прызвычаіўшыся да цкаваньня тых, якія прабуюць інакш думаць, — прыступіць да позытыўнае працы нялёгка.

Мне прыпамінаюцца часы, калі ліквідавалася прыватная віленская гімназія, пераходзячы пад дзяржаўную апеку.

У той час, на так заслужанага на ніве беларускае асьветы дыр. Астроўскага, хадэцкія пісак фабрыкавалі ўсякія пашквілі

# У кнігарні.

У беларускую кнігарню ўваходзіць малады вясковы хлапец. Ён у вялікіх, нячышчаных ботах. Нагавіцы таксама забруджаныя й парваныя ў асаблівых месцах. Шапка на бок. З-пад шапкі вылазіць пук сьветлых валос. Вочы сінявыя, з адлівам. Губы дзіўна чырвоныя. Нос задзёрты і выразна нячышчаны, так што хлапец усьцяж шмарыгае і падцірае яго рукой. Твар упрыгажываюць буйныя прышчыкі.

Хлапец падходзіць да прылаўка і, свабодна апіраючыся, пытаецца нарасьпеў:

— Беларуская газэта якая ё—ёсьць?

— Ёсьць „Беларуская Крыніца“ і „Родны Край“—адказываюць.

— А якімі літарамі, польскімі ці рускімі?—пытае хлапец.

— „Крыніца“ напалову польскімі, напалову рускімі, а „Родны Край“—рускімі. Яно-то літары ні польскія, ні рускія — дадаюць.

Хлапец думае.

— А колькі каштуе?—Заганывае, пачакаўшы.

— „Крыніца“—20 гр., а „Родны Край“ 15 гр.

— А чаму „Крыніца“ 20 гр.? Каб 15, то купіў-б.

А пасьля выцягвае з-пад палы зьвязку кніжак і газэт.

— Быў я ў радакцыі „Крыніцы“, расказвае,—дык мне далі во газэт, кніжак.. глянь — працягвае ён мне і хоча разьвязваць.

— Ня варта разьвязваць — кажу.

— Але мне старыя газэты далі, а кніжачак з 20, але ўсё маленечкія. Во—як прыеду ў вёску, дык хлопцы будуць чытаць (пачытаюць, думаю, каталіцкія прамудрасьці).

Пэўны час маўчым.

Хлапец бярэ „Крыніцу“ і чытае, варушачы губамі. Чытае доўга, у некаторых месцах усьміхаецца.

— А скуль-жа вы прыехалі?— пытаю.

— З-пад Друі „прыехалі“ — адказвае. Бачу, што на „вы“ не згаворымся, пачынаю папрыяцельску, на „ты“.

— А чаго-ж ты прыехаў? — пытаю. У рэдакцыю?

— Не, я да знаёмага прыехаў.

— У госьці, значыцца?

— Ды не! Якія там госьці, — кажа задуменна—калі той знаёмы ў Ліду сяганьня паехаў, а ўчора толькі тры шклянкі гарбаты выпілі.

Маўчым. Хлапец з цікавасьцю разглядаецца па кнігарні. Прапаную папіросу.

— Ты, брат, курыш?

Ахвотна бярэ папіроску і мы пушчаем клубы сіняга дыму.

— А тут ёсьць „Канёк — Гарбунёк“? — раптам пытае хлапец. Разглядае „Канька - Гарбунька“, чытае голасна цэлую старонку. Задаволены. Каштуе 50 гр.

— Каб хапіла грошы на білет, дык купіў-б—кажа задумчыва.

— А табе колькі білет каштуе?

— Г...., білет—кажа.

Так я й не даведаўся, колькі білет каштуе. Аказалася, ён зайцам ехаў. Дзе таварным, дзе пасажырскім. Далей мы разгаварыліся аб кнігарнях. Хлапец пацікавіўся, ці паліцыянт ня турбуе рэдактара. Калі я сказаў, што рэдактара паліцыя не чапае, толькі яго судзяць і часам у вастрог садзяць, моцна зьдзівіўся, на твары выявілася спачуваньне.

— У вастрог садзяць... — працягнуў паважна.

— А каб я, кажа, напісаў аб паліцыянтах у газэту, дык што было-б?

— Нічога, кажу, пішы.

— А ў „Крыніцы“ добры дом — выразіўся праз пэўны час.

— Дык гэта-ж ня іх дом, яны яго наймаюць, плоцяць грошы за яго.

— Арандуюць—дабавіў хлапец.

— Так, арандуюць.

— А чаму-ж яны свайго дому ня маюць?

— О, брат, каб свой дом мець, трэба шмат грошаў. Каменны дом пабудаваць — гэта ня жарты...

— А нашто каменны, я з дрэва пабудаваў-б—перабіў.

— Ну, добра, а пляц скуль-бы ўзяў. Пляц-та колькі каштуе..

— А я б на Буфаловай гары пабудаваў-б, там - пустка.

— Не, кажу, і там трэба плаціць. Усё гэта гарадзкая зямля, а, у дадатак, у драўлянай хаце — ня было-б як і павярнуцца, ня тое што друкарню ды рэдакцыю зьмясьціць. Хлапец нешта не згадзіўся са мной.

— Хай-бы, кажа, купілі карову ды кармілі рэдакцыю. Гутарка наша перайшла на іншыя тэмы.

— А што было-б, каб я ў нас гурток залажыў-б? — спытаў ён раптам мяне.

— О, кажу, шмат што было-б. Пачалі-б вы вечарыны стаўляць, залажылі-б бібліятэку - чытальню, кнігі-б, газэты чыталі, да вас-бы прыяжджалі людзі чытаць лекцыі, парадзілі-б вам ува ўсім.

Хлапцу вельмі спадабалася, што яны-б самі цэны на білеты вызначалі. Ён пацікавіўся, якую цану можна было-б паставіць.

— Злот, кажу, з паноў, а з нашага брата - 20 гр.

Расьсмяяўся.

— Вось, кажу, намалявалі б цябе на нейкага дзеда, бараду прыклеілі-б і пачаў-бы ты на сцэне лазіць туды ды сюды, ды розныя штучкі вырабляць...

Задаволены хлапец. Сьмяецца.

— А тут вады ня можна дастаць? —

— Не, тут вады няма. Хіба дзе помпу знойдзеш у двары. А за шклянку вады ў краме ты заплоціш 5 гр. Затое-ж вада — з газам, як вып'еш дык адрыгаецца прыемна.

— З газам?—пацікавіўся.

— Ня піў ты вады садовай?— пытаю.

— Не.

— Сельцерскай...

— Не.

— Ну, дык хадзі, фундну табе з газам шклянку.

Зайшлі ў беларускі коопэратыў. Хлапец паважна зьняў шапку, у якой увесь час быў у кнігарні. Са смакам выпіў і выцер рукой губы. Не сказаўшы ні слова, ён выйшаў на вуліцу і пабрыў пад станцыю.

— Добры матэр'ял — падумаў я. А беларускія рэдакцыі могуць скарыстаць з радаў гэтага хлопца. Што-ж? Купілі-б, прынамся, кароўку—хай-бы папраўлялася рэдакцыйная братва. *Інсілён.*

скій язык" на якім ня раз загадвалася вышэйшымі Царкоўнымі Уладамі вясьці выкладаньне навукі рэлігіі ёсьць у нашым краю *жывая беларуская мова*, 3) для дабра царквы рашуча парваць з дасюляшняй практыкай законавучыцеляў, давёўшых справу выкладаньня Закону Бож. амаль што да сапраўднага столпотворенія Вавилонскаго й перайсьці на ўсіх ступенях школы да выкладаньня рэлігіі *ў беларускай мове*.

Наступна Камісія прыняла прапанову гр. Астроўскага зьвярнуцца да сынадальнага выдавецтва з просьбаю: 1) прыслаць Камісію для перагляду рукапісі падручніка па Новаму Завету гр С. Паўловіча і 2) як найхутчэй разаслаць выданы ўвосені мінулага году „Малітваслоў" ў царк.-слав. і беларускай мове, асабліва рэкамандуючы яго ўвазе а. а. Законовучыцеляў.

З браку месца змушаны мы абмежыцца толькі гэтымі кароткімі інформацыямі аб распачатай карыснай працы, вітаючы гэтым сяброў Камсіі і жадаючы ёй пасьпеху ў працы.

# З краю.

— У Міністэрстве Фінансаў заканчваецца апрацоўка новага закону ў справе падаткаў. За праступкі, зьвязаныя з укрываньнем фактычнага даходу, уводзяцца вялікія кары. Незалежна ад арышту (да 6-ці месяцаў), прадбачуцца і грашавыя кары ў разьмеры 25-кротнай сумы тэй страты, якую меў скарб з прычыны неправільнага падаваньня заінтэрэсаванымі асобамі свайго фактычнага даходу. За адмову выдачы гандлёвых кнігаў дзеля перагляду уводзіцца штраф да 3.000 зл. Вялікія штрафы уводзяцца за гандляваньне без патэнту: 25-кротнай вартасьці апошняга. Сьведкі, якія сваімі паказаньнямі пацьвердзілі ў справах падатковых неправільныя факты, будуць карацца да 5.000 зл. штрафу. Высокія кары будуць накладацца і на сяброў камісіяў, пакліканых дзеля разгляду падатковых жалабаў, за нарушэньне тайніцы пры вылічаньні фактычнага даходу і накладаньні падаткаў.

— Міністэрства Унутр. Спраў забараніла прадажу і распаўсюджваньне на тэрыторыі Польшчы заграпічных газэтаў: „Nowe Życie" і „Nasz Kurjer", якія выходзяць ў Парыжу ў польскай мове; „Трудова Украіна" і „Украінске Слово"— выходзячыя ў Празе (Чэхаславаччына, „Der Chelfer" — выходзячы у Парыжу ў жыдоўскай мове.

— У хуткім часе адбудзецца сходка спульнікаў Т-ва „Польскае Радыё" дзеля вырашэньня пытаньня прадажы радыё - станцыі ў Рашыне (каля Варшавы) ураду і узмацаваньня гэтай станцыі да 500 кіляватаў.

— У сувязі з паніжэньнем цэн на сыр'ё--лодзінск. фабрыкі абнізілі цэны суконных матэр'ялаў на 5 прац.

— Варшаўская дырэкцыя чугунак выдала распараджэньне, забараняючае фатаграфаваньне, без адпаведнага дазволу дырэкцыі, чугунак, станцыяў, мастоў і інш. на тэрыторыі чугунак усяе Польшчы. Нарушэньне гэтай забароны будзе разглядацца як *шпіанаж*. Адзіным выняткам зьяўляецца права фатаграфаваньня асобаў, знаходзячыхся на пэроне ці ў вагоне.

— Міністэрства соц. апекі выпрацавала новы, ужо шосты, закон аб аптэках Закон гэты дае вялікія прывілегіі аптэкам са шкодай для аптэчных складаў. Усялякія лякарствы ня толькі па рацэптах дактароў, але і лякарствы фабрычныя, гатовыя, як, напрыклад, асьпірына, будуць прадавацца толькі ў аптэках.

— На праўны факультэт Варшаўскага Унівэрсытэту ў гэтым годзе будзе прынята толькі 800 асобаў. Падчас конкурсу будуць адразу адкінены заявы тых асобаў, якія на матуральным пасьведчаньні ня будуць мець адзнакі з лацінскай мовы.

— У Польшчы ўзрастае эпідэмія крываўкі. У мінулым тыдні, зарэгістравана на тэрыторыі цэлага краю 1140 новых выпадкаў гэтай хваробы.

— Апублікавана новая офіцыяльная статыстыка палякоў, якія згінулі ад 1918-1921 г. у баёх за незалежнасьць Польшчы. Забітых за гэты час—47.055 чалавек, наагул загінуўшых– 54.069.

— Гэтымі днямі пачаліся перагаворы Польшчы з Бразыліяй адносна куплі ў Бразыліі вялікшай плошчы зямлі для польскіх эмігрантаў дзеля залажэньня новай польскай калёніі. Калёнію гэтую праэктуюць залажыць побач з існуючай п. н.: „Белы Арол".

— У працягу мінулага месяца выэмігравала з Польшчы 895 чал. у Злучаныя Штаты (Амэрыка), Канаду, Бразылію, Аргэнтыну, Парагвай, Францыю і Бэльгію.

— У вышэйшых школах (Унівэрсытэты, Політэхнікі і інш.) у Польшчы вучыцца 49 729 студэнтаў, у гэтым ліку 35.628 мужчын і 14.099 кабет. З агульнага ліку: 36.054 каталікоў, 1788 грэка-каталікоў, 1.229 праваслаўных і 8.439 жыдоў; апошніх--17 працэнтаў усяго студэнцтва.

# Заграніцай.

✕ У сувязі з падпісаньнем дагавору аб супрацоўніцтве паміж **Латвіяй, Эстоніяй і Літвой**, дэлегаты гэтых дзяржаў прынялі прадстаўнікоў міжнароднай прэсы, якім мін. Сэлбямаа ад імя ўсіх адчытаў дэкларацыю, у якой падчыркнуў вялікае значэньне гэтага збліжэньня ня толькі для гэтых 3-х дзяржаў, але нават для іншае часткі Эўропы, як дзейнік рэалізацыі сужыцьця і міру.

✕ У **Бэльгіі** пануе вялікае абурэньне сярод горных работнікаў з прычыны праэктаванай абніжкі платы на 5 проц. Кіраўніцтва проф. саюзу вуглякопаў супольна з Рэформстскім профсаюзам пастанавілі абвясьціць забастоўку, калі прадпрыемцы зьніжуць плату.

✕ Прамова Розэнбэрга на зьездзе нац.-соцыялістаў у Нюрэнбэргу, (**Нямеччына**) часткова прысьвечаная Савецкай Расеі, выклікала сэнсацыю. Паводле яго слоў, СССР зьяўляецца цяпер праўдзівай тыраніяй, дзе невялікая кіруючая група людзей, маючая ў сваіх руках усе тэхнічныя здабычы XX веку, дыктуе сваю волю міліёнам людзей, уводзячы даўнейшы прыгон. Група гэтая мае замер, пры помачы гаспадарчага дэмпінгу, завострыць соцыяльныя адносіны ў другіх дзяржавах, каб запаліць „полымя міжнароднай рэвалюцыі".

✕ У **Злучаных штатах** (Амэрыка) ў правінцыі Вунцкат паўстала забастоўка работнікаў ткацкіх фабрыкаў. Лік бастуючых работнікаў дасягае некалькіх дзесяткаў тысяч. Паміж бастуючымі а паліцыяй і войскам адбываюцца сутычкі. Дагэтуль забіта 11 работнікаў, аднак разагнаць забастоўшчыкаў, каб распачаць ізноў працу на фабрыках, дагэтуль не ўдалося. Кругом фабрыкаў сконцэнтравана войска, паліцыя і міліцыя ў ліку 40.000 чалавек. У сувязі з гэтай забастоўкай, б. прэзыдэнт Амэрыкі, Гувэр, выступіў у газэце «Івнінг Пост» з крытыкай сучаснага амэрыканскага ладу, падкрэсьліваючы, што сяньняшняя бюрократыя і стагнацыя эканамічнага жыцьця можа ў хуткім часе прычыніцца да таго, што наступіць заняпад унутранага жыцьця і ўтрата ўплываў і значэньня Амэрыкі на міжнародным грунце.

✕ У **Празе** (Чэхаславаччына) ад 23 да 28 верасьня будзе трываць зьезд матэматыкаў славянскіх дзяржаў. Праца зьезду будзе адбывацца ў 8 сэкцыях і ў пленарных пасед жаньнях. Да гэтага часу запісалася на зьезд 199 дэлегатаў.

✕ У «Vien Ztg.» апублікаваны закон адносна разаружаньня ўсіх палітычных партыяў у **Аўстрыі**. У працягу 5 дзён усе палітычныя партыі павінны здаць аружжа паліцыі.

✕ Як падае «Экономическая Жизнь» бюджэтны недахоп у **СССР**, па аднаму толькі падатку ад абаротаў (гандлёвых), выносіць да 1-га верасьня г. г. 259 міл. руб.

✕ **Японскае** ваеннае міністэрства апублікавала праект свайго бюджэту на 1935-36 год. Праэкт гэты прадбачыць павышэньне сумы свайго буджэту на 117 мільёнаў у параўнаньні з бюджэтам папярэдняга году і мае выносіць 626 міл. Так вялікае павышэньне цыфры японскія ваенныя кругі тлумачаць патрэбай абароны Манджурыі і няпэўным палажэньнем на ўсходзе ў сувязі з савецка-японскім конфліктам, што змушае да павялічэньня арміі

✕ Паводле апошніх дадзеных, лік безработных у **Нямеччыне** на пачатак верасьня с. г. дайшоў да 2.398.000 чалавек.

✕ «Le Petit Parisien» падае дадзеныя адносна ліку войска ў **Саветах**. Паводле гэтых дадзеных, чырвоная армія складаецца з 600.000 жаўняроў, у лік якіх уваходзяць 30.000 матросаў і 30.000 пілётаў. За апошнія гады ўзмацаваны тэхнічныя кадры. Чырвоная армія, як падае гэтая-ж газэта, стаіць на вышыні сучаснай тэхнікі. За апошнія гады ўзрос лік кулямётаў, гарматаў і танак. Створаны хімічныя прадпрыёмствы. Узмацоўваецца Балтыцкі і Чарнаморскі флёт а таксама будуецца флёт на Дал. Усходзе. Найлепш, падобна, стаіць авіяцыя.

✕ У гэтым месяцы гасьціла ў **Польшчы** дэлегацыя савецкіх матросаў на чале з начальнікам савецкага флёту адм. Гальлерам.

Прыезд гэты быў адказам на візыту польскага флоту, які не так даўна быў у Саветах на чале з начальнікам польскага флёту контрадміралам Унгарам.

## Пры газэце „Родны Край" адчыняецца

## куток праўных парадаў.

Заінтэрэсаваныя асобы могуць зьвяртацца пісьменна ў Рэдакцыю (праўны куток) з запытаньнямі, на якія будзе дадзены адказ: кароткі ў газэце, даўжэйшы ў пісьме. На адказ пісьмом трэба далучыць марку на 30 гр.

## Баявыя прыгатаваньні ў Менску.

У Менску адбыўся, пасьля заканчэньня манэўраў беларускага вокругу, вялізарны сход і вайсковы парад, падчас якога камісар абароны Варашылаў падкрэсьліў надзвычай добрае баявое прыгатаваньне чырвонай арміі.

Некалькі дзён таму назад, перад пачаткам манэўраў беларускі прэм'ер Галадзед запэўняў камісара, што Савецкая Беларусь, якая знаходзіцца на самай граніцы капіталістычнага сьвету, будзе змушана ўзмацніць баявую гатоўнасьць.

## Саветы і Ліга Народаў.

„Journal de Geneve" піша, што ўрад СССР, паведамлены аб зьмесьце праэкту запросінаў Саветаў у Лігу Народаў, мае пэўныя засьцярогі што да гэтага зьместу і ўважае, што ён не дае тэй маральнай сатысфакцыі, якую вымагае ад яго публічная апінія. Савецкі ўрад зажадаў дапаўненьня і пашырэньня формулы запросінаў".

Жэнэўскі корэспондэнт „Manchester Guardian" кажа, што ў сувязі з запросінамі Саветаў у Лігу між Англіяй і Францыяй зарысоўваецца конфлікт.

Брытыйскі дэлегат мін. Сімон уважае, што якраз Саветы павінны злажыць прырачэньне аб выконваньні міжнарожных забавязаньняў, а не тыя дзяржавы, якія запросіны падпісываюць. Такое становішча Сімона можа прычыніцца да таго, што прыймо Саветаў у Лігу пойдзе па дарозе звычайнай процэдуры, а не ўпрошчанай, якую форсуе мін. Барту, баючыся, што Саветы наагул могуць тады адмовіцца ўступіць у Лігу.

Ірляндскі прэм'ер таксама выказаўся проціў спэцыяльнай мэтоды прыйма Саветаў у Лігу Народаў. Упрошчаная процэдура адбылася-б коштам правоў некаторых сяброў Лігі, што зьяўляецца недапушчальным.

Уся савецкая прэса моўчкі абыходзіць справу ўступленьня Саветаў у Лігу.

## Мангольская раса пераможа.

Артыкул Муссоліні аб дэгенэрацыі белай расы выклікаў у свой час шмат гуку ў эўрапейскай прэсе. Між іншым паявіўся артыкул ведамага францускага вучонага соцыялёга Ландры, які зьмяшчае ў сабе некалькі дапаўняючых уваг.

Ландры кажа, што Муссоліні мае шмат у чым слушнасьць. Мы перажываем цяпер праўдзівую „дэмографічную рэвалюцыю", але не здаем сабе з гэтага справу.

Факт, што ў Францыі паменшываецца ўсьцяж нараджальнасьць ня ёсьць такі страшны, бо затое адначасна паменшываецца і сьмяротнасьць, дзякуючы поступу грамадзкай гігіены. Але страшны факт той. што край паступова старэе, г. зн. выяўляе перавагу дарослых людзей і старыкоў над моладзю. У практыцы факт гэты давєдзіць да сталога паменшаньня лічбы людпасьці і фізычнай дэгенэрацыі народу. Францыя напрыклад у параўнаньні з Нямеччынай мае на 75% меней моладзі.

Але згодна з аблічэньнямі нямецкіх статыстаў перавага гэтага ня будзе доўга трываць. У 1975 г. людпасьць Нямеччыны ўстабілізуецца і ад гэтай хвіліны пачне ўзрастаць лічба старыкоў. Гітлерызм і фашызм добра гэта разумеюць і таму вядуць вострую акцыю ў напрамку падняседьня роўня грамадзкай маральнасьці і—вострую барацьбу проціў бязжонства.

Далей Ландры на падставе лічбовых даных сьцьвярджае, што ў Японіі ў канцы мін. 1933 г. надвыжка нараджальнасьці над сьмяротнасьцю выносіла 1 міліён. У выніку сваіх спасьцярогаў вучоны прыходзіць да вываду, што сучасная цывілізацыя белай расы вымярае, і што заняпад яе будзе куды страшнейшы, чымся зьнішчэньне антычнага сьвету наездам барбараў.

**Навучайце сваіх дзяцей чытаць і пісаць пабеларуску!**

Рэдактар: М. СІНЯЎСКІ. Выдавец: ТБА. Друк. Я. Левіна Вільня, Нямецкая вул. 22.